# З прэсавае Канфэрэнцыі IPO

18-ая прэсавая канфэрэнцыя IPO, што адбылася ў Бад-Кісінгэн 4 травеня сёлета, была прысьвечана розным пытаньням, што тычацца далейшага лёсу ДП, галоўная аднак увага, як і трэба было спадзявацца, была зьвернутая на справы эміграцыйныя.

На пачатку канфэрэнцыі дырэктар IPO на амэрыканскую зону сп. Раен паінфармаваў аб праектах пастановаў Генэральнай Рады IPO, прынятых нядаўна ў Жэнэве. Гэтыя пастановы наступныя:

1. Спыніць ад 1 кастрычніка 1949 г. прыняцьце перамяшчэнцаў пад апеку IPO.

2. Усе ДП найпазьней да 1 студзеня 1950 г. павінны пастанавіць: а) ці яны хочаць эміграваць і ў я якую краіну, б) ці хочаць астацца ў Нямеччыне й в) ці хочаць рэпатрыявацца ў край свайго паходжаньня.

3. З 1 ліпенем 1950 г. спыніць апеку IPO над усімі ДП за выключэньнем тых, што будуць яшчэ ў гэты час знаходзіцца ў працэсе эміграцыі.

4. Пасьля 1 ліпеня 1950 г. у магчыма найхутчэйшым часе спыніць дзейнасьць IPO наагул.

Гэта аднак толькі праекты. Аканчальная пастанова ў гэтых справах будзе прынятая на надзвычайным паседжаньні Рады IPO, якое адбудзецца 22 чэрвеня 1949 г.

Было пададзена да ведама, што згодна падлічэньняў IPO ў заходніх зонах Нямеччыны й Аўстрыі знаходзіцца каля 200.000 і ў Італіі каля 100.000 перамяшчэнцаў, якія яшчэ ня маюць статусу ДП. Калі яны жадаюць карыстаць з апекі IPO, то павінны згодна з вышэйшай пастановай найпазьней да 1 кастрычніка здабыць статус ДП.

На запытаньне, які чакае лёс старых, інвалідаў, удоваў зь дзецьмі й наагул людзей ня здольных да працы, якія хочаць эміграваць, але ня могуць, было адказана, што IPO працуе над разьвязаньнем гэтае праблемы. На думку генэральнага дырэктара IPO ў Жэнэве сп. Така ў дачыненьні да такіх людзей могуць быць два выхады: а) дзяржавы, што зьяўляюцца сябрамі IPO, возьмуць іх да сябе на собскае ўтрыманьне, або б) гэтыя людзі астануцца ў Нямеччыне на ўтрыманьні гэтых-жа дзяржаваў.

Далей было закранутае пытаньне, што многія ДП для мэтаў эміграцыі мусяць выраблaць розныя дакумэнты (мэтрыкі й інш.) у нямецкіх установах за высокія аплаты, пакрыць якіх яны ня маюць магчымасьці. Было выясьнена, што эміграцыйныя аддзелы сацыяльнай апекі IPO маюць на гэта спэцыяльныя сумы, зь якіх могуць аплачваць выдаткі за выпрабленьне дакумэнтаў. У гэтыя-ж аддзелы зацікаўленыя й павінны зьвяртацца.

Прадстаўнікі ДП прэсы сьцьвердзілі на канфэрэнцыі непажаданае зьявішча, што ДП, якіх вызываюць на камісіі дзеля эміграцыі ў ЗША, павінны ехаць у эміграцыйныя цэнтры з усей сваей маемасьцю, ня гледзячы на тое, ці пройдуць яны камісію, ці не. У вадказ на гэта прадстаўніца эміграцыйнага аддзелу IPO заявіла, што IPO першы раз аб гэтым чуе й што ў сувязі з гэтым разашле ў эміграцыйныя цэнтры абежнікі, каб ДП выклікалі на камісіі бяз рэчаў, а затое каб пасьля прыняцьця іх на эміграцыю давалі ім некалькі дзён часу забраць сваю маемасьць.

На запытаньне прадстаўніка нашае газэты, ці IPO робіць адпаведныя стараньні, каб як найхутчэй была адмененая пастанова, на аснове якой беларусаў зь сем'ямі ня прыймаюць у Аўстралію. У вадказ на тэга было заяўлена, што IPO вядзе інтэнсыўныя стараньні дзеля як найхутчэйшае адмены гэтае пастановы й спадзяецца, што ў хуткім часе й беларусы зь сем'ямі змогуць эміграваць у Аўстралію.

На заканчэньне было паведамлена, што 200 нямецкіх лекараў і 200 лекараў ДП будуць прынятыя на працу пры амэрыканскай арміі. Як адныя, гэтак і другія мусяць аднак ведаць ангельскую мову.

**Ст. Ст.**

### ЯКІЯ «БЕЛАРУСЫ» КІРУЮЦЬ БЕЛАРУСЯЙ?

Варшаўская газэта «Дзеньнік Людовы» (Но. 51/1191) за 21.2.1949) падала афіцыйную вестку польскага прэсавага агенцтва наступнага зьместу: «У Менску адбылося першае пленарнае паседжаньне нававыбранага Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі Беларусі, на якім былі праведзеныя выбары палітбюра Ц. К. Першым сакратаром ЦК КПБ быў паўторна выбраны Гусарев, другім сакратаром Зімянін. У склад палітбюра ЦК апрача гэтага ўвайшлі выдатныя правадыры беларускага партызанскага руху, між іншымі сучасны прэм'эр БССР Клешчов і старшыня прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Козлов».

Прозьвішчы гавораць самі за сябе. Спасярод гэтых прозьвішчаў не знаходзім аніводнага беларускага, а толькі закаранела расейскія, якія носіць насельніцтва ваколіцаў Масквы ці Сталінграду.

Але ня толькі ў вярхоўных органах камуністычнай партыі Беларусі маюць вылучны манаполь чыстакроўныя расейцы. Яны таксама вылучна рэпрэзэнтуюць навет спартовае жыцьцё Беларусі, не гаворачы ўжо аб галінах грамадзкага, культурнага ці эканамічнага жыцьця. Бо вось іншая Варшаўская газэта «Жыце Варшавы» (Но. 47/1549) за 17.2.1949) інфармуе, што з нагоды 30 гадавіны БССР Усесаюзны Камітэт для Справаў Фізычнае Культуры й Спорту пры радзе міністраў СССР узнагародзіў рад беларускіх спартоўцаў. Узнагароджанымі аказаліся такія «представители братнего русского народа», як Большаков, Лунев, Гольмов, Кочатков, Мірскій і іншыя.

Што-ж тады робяць беларусы ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы? Адказ просты: яны пухнуць з голаду й непасільнай працы ў калгасах і на заводах, а лепшая частка нашага народу вынішчаецца ў канцэнтрацыйных лягерах халоднае Поўначы й далёкага Сібіру...

## Эмігруючы, ня трацьце сувязі!

### МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫ САЮЗ ІНЖЫНЕРАЎ І АРХІТЭКТАРАЎ

Дзякуючы ініцыятыве Міжнацыянальнага Камітэту ДП і Палітычных Уцекачоў заснаваўся 25 сакавіка сёлета Міжнацыянальны Саюз Інжынераў і Архітэктараў. Да яго могуць належыць толькі тыя інжынеры й архітэктары, якія маюць закончаную вышэйшую асьвету. Управа Саюзу знаходзіцца ў Рэгензбургу, але ейныя паседжаньні будуць адбывацца ў Мюнхэне.

---

бім, начале зь Іванам. Калі яны будуць, нераўнуючы мухі, чапляцца за скалы, нашыя людзі налятуць на іх з абодвух бакоў з асьнямі, стрэламі й стрэльбамі. Згары жанчыны й дзеці будуць скульваць на іх адломкі скалаў. Гэта будзе вялікі дзень. Маскалі пагінуць, і старана нашая будзе ачышчаная. Іван-жа, той самы Іван, які асьляпіў майго бацьку й адлупцаваў цябе бізуном для сабакаў — будзе таксама забіты. Ён здохне, як шалёны сабака, раструшчаны скаламі. А калі пачнецца бітва, ты, Нэгару, мусіш потайкі выпаўзьці, так каб цябе не забілі.

— Добра, — адказаў ён. — Нэгар пакажа ім дарогу. А тады...

— Тады я буду тваёй жонкаю, Нэгару, — жонкаю адважнага чалавека. Ты будзеш лавечыць для мяне й Старога Кінуза, і я буду варыць табе есьці й шыць табе цёплую, моцную вопратку ды зраблю табе абутак на ўзор майго народу, — ён будзе лепшы, як той, што ў вас носяць. I я буду ад таго дня заўсёды тваёй жонкаю. Я зраблю тваё жыцьце радасным, так што ўсе твае дні будуць поўныя песьняў і сьмеху, і ты пазнаеш, што Уна не падобная да іншых жанчынаў. Яна цягалася па далёкіх старонах і бачыла нязнаныя мясьціны, і яна зрабілася мудрай, — мудрай, як мужчына, гэткай мудрай, што ўмее даваць ім радасьць. I ў старасьці тваёй яна будзе даваць табе радасьць. I твае ўспаміны пра яе, пра тое, якой была яна днямі твае маладосьці, будуць салодкія. — Бо ты будзеш ведаць заўсёды, што яна была табе палёгкаю, мірам, адпачынкам і была лепшай табе жонкаю, чымся іншыя жанчыны іншым мужчынам.

— Няхай будзе гэтак, — сказаў Нэгар, і жарсьць да яе жэрла ягонае сэрца, і абыймы ягоныя рашчыняліся для яе — як рукі галоднага чалавека цягнуцца па ежу.

— Адно тады, калі пакажаш ім дарогу, Нэгару... — спыніла яна яго. Але вочы ейныя былі пяшчотныя й вогкія, і ён ведаў, што яна глядзіць на яго так, як ніколі яшчэ жанчына на яго не глядзела.

— Добра, — сказаў ён і завярнуўся станоўка. — Я пайду зараз перагаварыцца з правадырамі. Хай яны ведаюць, што я йду паказаць дарогу Маскалём.

— О, Нэгару, мой мужу! — прашаптала яна сьціха яму наўздагон. Але яна сказала гэта ціха, — навет Стары Кінуз не пачуў, дармо, што слых ягоны ад часу, як ён асьлёп, зрабіўся вельмі войстры.

За тры дні Маскалі выцягнулі Нэгара, як пацука, зь цясьніны, куды ён схаваўся. Яго прывялі да Івана, «Івана Грознага», як звалі яго тыя, хто за ім ішоў. Нэгар быў узброены благім асьнём з касьцяным наканцоўем. Ён туліўся ў свой заечы кажух і дрыжэў, як у трасцы, дармо што дзень быў гарачы. Ён круціў галавою, паказваючы, што не разумее Івановых словаў, і ўдаваў, быццам вельмі прыстаўшы й хворы ды хоча толькі адпачыць. Ён паказваў на сваё чэрава, дзе ў яго баліць, і ўсё моцна дрыжэў. Але зь Іванам быў чалавек з Пэстыліку, які гаварыў Нэгаравай мовою. Яны доўга дарэмна даходзілі ў Нэгара пра ягонае плямё, пакуль нарэшце чалавек з Пэстыліку, на йме Кардук, не сказаў:

— Іван загадаў, каб цябе залупцавалі да сьмерці, калі ты ня будзеш гаварыць. I ведай, мой незнаёмы браце, што Іванова слова — закон. Я — твой прыяцель, а Іван — овраг. Бо я не самахоць пакінуў сваю старану ля мора. Але я хочу жыць і таму паддаюся волі майго валадара. I ты будзеш выконваць ягоныя загады, калі ты хочаш жыць.

— Незнаёмы браце мой, — адказаў Нэгар, — я запраўды ня ведаю, куды пайшоў мой народ, бо я быў хворы, і мае ногі зрадзілі мяне, і я астаўся ад іх.

Нэгар чакаў, пакуль Кардук гаварыў зь Іванам. Тады ён пабачыў, што твар у Маскаля спахмурнеў і, на ягоны кіў, двух людзей падыйшлі да Нэгара з двух бакоў, ляскаючы ў паветры цяжкімі бічамі. Тады ён удаў вельмі спалаханага ды голасна крычэў, што ён хворы чалавек і нічога ня ведае, але ён скажа тое, што ведае. I так добра ён ім расказаў, што Іван загадаў сваім людзём рушыць наперад.

Поплеч-жа з Нэгарам ішлі зь бізунамі, каб ён ня мог уцячы. I калі ён казаў, што заслабеў ад хваробы ды аставаўся ад іх — яны яго лупцавалі датуль, пакуль ён ня крычэў ад болю й не знаходзіў сілаў ісьці далей. Калі-ж Кардук сказаў яму, што ўсё для яго зьменіцца на лепшае, як толькі яны здагоняць ягонае плямё, ён спытаўся: «I тады я здолею адпачыць і ня рухацца?».

Ён усьцяж паўтараў гэтае пытаньне: «I тады мне можна будзе адпачыць і ня рухацца?».

Тым-жа часам, удаючы вельмі хворага й азіраючыся мутнымі вачыма на бакі, ён падлічаў людзей, што ўваходзілі да аддзелу. Разам з тым ён пераканаўся, што Іван не пазнаў у ім чалавека, якога біў перад брамаю, цьвярдыні. Дзіўная збор-дружына паўстала перад ягонымі вачыма. Тутака былі лаўцы славянскае пароды зь белай скурай і магутнымі цягліцамі; кароткія, каржакаватыя Фінцы з пляскатымі насамі й круглымі тварамі; родзічы Сібіру, чые насы былі падобныя да арловых дзюбаў; былі й худыя людзі з касавурымі вачыма, у жылах якіх мангольская й татарская кроў мяшалася із славянскаю. Гэта ўсё былі паўдзікія ахвотнікі да прыгодаў з далёкіх краў за Берынговым мораам. Агнём і мячом яны заваёўвалі новыя землі й прагавіта заграбалі іхныя багацьці — касмаціну й скуру. Нэгар глядзеў на іх із задаваленьнем, у думцы ўяўляючы сабе, як яны ляжаць раструшчаныя й бязжыцьцёвыя, у скалістым росступе. I заўсёды побач з гэтым ён бачыў твар і аблічча Уны, што чакае на яго на гары ў скалах, і ўсьцяж голас ейны гучэў у яго ў вушшу, і ён пачуваў на сабе цёплы й пяшчотны бляск ейных вачэй. Але разам з тым ён не забываўся ўдаваць хворага й зачапляўся там, дзе дарога была цяжкая. I паранейшаму крычэў ён пад бізунамі. Пры гэтым ён увесь час асьцерагаўся Кардука, бо ведаў, што яму зьвярацца нельга. — У яго быў хвальшывы пагляд і занадта зюклівы й гладкі язык—думаю Нэгар--не падобны да простае, чэснае мовы.

Цэлы дзень яны йшлі. Назаўтрае, калі Кардук, на Іваноў загад, задаў пытаньне Нэгару, — той адказаў, што наўдачу ці яны судосяць плямё раней за заўтрашны дзень. Але Іван, ад таго часу, як ён зьверыўся паказаньню Старога Кінуза й цяжка за гэта паплаціўся, нічому больш не даваў веры. Таму, калі яны прыйшлі да росступу між скалаў, ён прыпыніў свае сорак чалавек і спытаўся праз Кардука: «Ці чыстая дарога?» Нэгар агледзеў яе пакорным паглядам. Гэта быў шырокі схон, што йшоў паўз скалы, і ўвесь ён быў паросшы хмызьняком і паўзунамі, дзе маглі добра схавацца дзесяткі племяў.

Ён пакруціў галавою.

— Там нічога нямаш, — сказаў ён, — дарога чыстая.

Ізноў Іван перагаварыўся з Кардуком, і той сказаў:

— Ведай, незнаёмы браце, што калі тваё паказаньне нядобрае, калі твой народ заступіць дарогу ці нападзець на Іваноў аддзел, ты зараз-жа памрэш.

— Я паказваю добра, — сказаў Нэгар, — дарога чыстая.

Але Іван не даваў, і загадаў двум із сваіх лаўцоў узьлезьці на вяршаліну скалы. Двух іншых стала, на ягоны загад, паабапал Нэгара. Яны прыставілі свае стрэльбы да ягоных грудзей і спыніліся чакаючы. Цэлы аддзел чакаў. I Нэгар ведаў, што калі выляціць хоць адна страла ці асьцён, — ён памрэць. Два лаўцы лезьлі ўсё вышэй і вышэй, I калі яны дабраліся да вяршаліны ды махнулі шапкамі на знак таго, што ўсё ў парадку, яны здаваліся маленькімі чорнымі бодачкамі на фоне сьветлага неба.

Стрэльбы адвялі ад Нэгаравых грудзей, і Іван загадаў рушыць наперад. Іван маўчаў, задуманы. Блізка гадзіну ён ішоў, як-бы нешта мяркуючы, і тады, праз Кардука, спытаўся ў Нэгара:

— Як ты ведаў, што дарога чыстая, не агледзеўшы яе?

Нэгар уздумаў на птушкі, якіх ён бачыў седзячы на скалах і ў кустох, ды ўсьміхнуўся: гэта было так проста. Але ён сьцепнуў плячыма й нічога не адказаў. Ён думаў пра другі росступ у скалах, куды яны кіраваліся, і дзе птушак ужо ня будзе. I ён быў рады, што Кардук — родзіч зь берагоў Вялікага Імглістага Мора, дзе няма дрэваў і кустоў і дзе людзі вучацца морскае штукі, а не мастацтва роўнядзі й лесу.

Тры гадзіны па тым, калі сонца было высака на небе, яны прыйшлі да другога росступу ў скалах, і Кардук сказаў:

— Глядзі на ўсе вочы, незнаёмы браце, бо Іван гэтым разам не маніцца чакаць, пакуль людзі пройдуць наперад агледзець дарогу.

Нэгар паглядзеў, а поплеч зь ім, стаяла двух людзей, із стрэльбамі, прыстаўленымі да ягоных грудзей. Ён пабачыў, што птушкі адляцеўшы, і ў ваднным месцы ён спасьцярог бліскат рулі на сонцы. I ён уздумаў на Уну й прыпомніў ейныя словы: «Калі бітва пачнецца, ты мусіш потайкі схавацца, каб не забілі».

Дзьве рулі ўпіраліся ў ягоныя грудзі. Гэта было зусім ня тое, на што яна меркавала. Відавочна, нельга будзе нікуды ўцячы. Ён памрэць першы, калі пачнецца бітва. I ён сказаў станаўкім голасам, але, якбы ад хваробы, усё дрыжаў.

— Дарога чыстая.

Іван рушыў наперад із сваймі саракма людзьмі з далёкіх староанаў за Бэрынгавым морам. За ім ішоў чалавек з Пэстыліку, Кардук і Нэгар, да грудзей якога былі прыстаўленыя стрэльбы. Уздыймацца было доўга, і яны не маглі рухацца борзда. Але Нэгару здавалася, што яны вельмі шпарка бліжацца да сярэдзіны росступу, дзе была засака.

У скалах направа грымнуў стрэл. Нэгар пачуў баёвы кліч свайго плямя і праз сэкунду ўхапіў пабачыць, што скалы й кусты насторшыліся грамадамі ягоных аднапляменцаў, што выступалі з-за іх.

Тады ён пачуў, што раптоўны агняны выбух быццам разрывае яго надвая. Ён паваліўся, адчуваючы войстры боль: у ягоным целе, што зьнемагалася, жыцьцё ходалася із сьмерцяй.

Ён трымаўся за сваё жыцьцё з прагавітасьцяй скнары, што чапляецца за свае скарбы. Ён усё яшчэ дыхаў, і паветра поўніла ягоныя ляткія пакутлівай соладзяй. Цьмяна да ягонае прытомнасьці даходзілі праблескі відна й хвалі гукаў. I цьмяна ён бачыў, як валяцца, паміраючы, Івановы лаўцы, і як з усіх бакоў сьцякаюцца да пабаёвішча ягоныя браты, поўнячы паветра крыкамі й бразгатам зброі. А згары жанчыны й дзеці скідаюць вялізарныя глыбы, што скачуць як жывыя йстоты ды з грукатам валяцца далоў.

Сонца танцавала над ім у небе; вялізарныя скалы калыхаліся й хісталіся, а ён яшчэ цьмяна чуў і бачыў. Калі-ж грозны Іван паваліўся ля ягоных ног, бязжыцьцёвы, раструшчаны сьцінутай глыбаю, — ён прыпомніў сьляпыя вочы Старога Кінуза — і цешыўся.

Тады гукі замерлі, глыбы больш не каціліся паўзь яго, і ён бачыў, як людзі ягонага пляма падыходзяць усё бліжэй і дабіваюць параненых асьнямі. Ён цьмяна распазнаваў, як поплеч зь ім магутны Маскаль-лавец уздымаецца ў вапошнім ходаньні за сваё жыцьцё й валіцца, пранізаны дзесяткамі асьнёў.

Тады ён пабачыў над сабою твар Уны й адчуў ейныя абыймы. I на вокамгненьне сонца спынілася, і вялізарныя хісткія сьцены скалаў застыглі.

— Ты адважны чалавек, Нэгару, — пачуў ён ейны голас. — Ты мой муж, Нэгару.

I ў гэтым вокамгненьні ён пеpажыў усю тую радасьць жыцьця, што яна яму суліла, і дакляраваныя ёю сьмех і песьні. I тымчасам як у небе памалу зьнікала для яго сонца й жыцьцё ягонае паступова адплывала, ён быў агорнуты салодкім успамінам пра Уну. I зь цягам таго, як памяць ягоная цьмянела й бляднела ды праблескі ейныя зьмяняліся нарастаньнем цемры, ён пазнаваў у вабыймах каханае запраўднасьць вешчаванага яму адпачынку, збыцьцё пpаpакаванага яму спакою. Калі-ж чорная ноч агарнула яго лежачы на ейных грудзёх, ён адчуў вялікі мір, што прасякаў сусьвет, ён пазнаў у заміраньні адыходнага сутоньня патаёмны надыход Цішыні.

**Пераклад Т .Лумача.**

